# ДЫРЭКТЫЎНА-ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР

№ 4 = ВЫХОДЗІЦЬ 1 РАЗ У МЕСЯЦ = МЕНСК, ЖНІВЕНЬ 1929 г. № 4

## 1. ПЫТАНЬНІ ЧАСОВАЙ НЕПРАЦАЗДОЛЬНАСЬЦІ.

*(Інструкцыя СССР пры НКП СССС ад 1/III-29 г. № 126).*

### А. Аб кантролі страхавых кас над прадстаўленьнем застрахаваным водпускаў па часовай непрацаздольнасьці.

#### І. Агульныя палажэньні.

1. Урачэбны кантроль організуецца органамі соцыяльнага страхаваньня і праводзіцца імі ў выбарчым парадку ў мэтах:

а) праверкі правільнасьці вызваленьня застрахаваных ад работы па часовай непрацаздольнасьці лечачымі ўрачамі;

б) праверкі выкананьня хворымі прадпісаньняў лечачых урачоў;

в) высьвятленьня прычын, якія выклікаюць рост захворваемасьці застрахаваных па паасобных прадпрыемствах, і прыняцьця праз адпаведныя органы ахововы здароўя і аховы працы неабходных мер да адхіленьня гэтых прычын і да папярэджаньня захворваньняў.

Сваю работу органы ўрачэбнага кантролю праводзяць у цеснай сувязі з фабзаўкомамі, камісіямі па ахове працы і г. д.

2. Урачэбны кантроль ажыцьцяўляецца страхавымі касамі праз страхавых урачоў у выбарачным парадку:

а) шляхам рэвізіі работы лекавых і лекава-прафіляктычных установ (не выключаючы і тых, дзе функцыянуюць урачэбныя кансультацыі) у галіне прадстаўленьня водпускаў па часовай непрацаздольнасьці;

б) шляхам часовай організацыі ўрачэбных кансультацый пры паасобных лекавых і лекава-прафіляктычных установах, як гэта: амбуляторыях, поліклініках, стацыянарах, клініках, дыспансэрах, пунктах дапамогі на даму і г. д.;

в) шляхам кантролю на даму.

#### ІІ. Прадстаўленьне водпускаў лечачымі ўрачамі.

3. Сьпіскі лечачых урачоў, якім прадстаўляецца права выдачы бальнічных аркушаў (аркушаў часовай непрацаздольнасьці), складаюцца мясцовымі органамі аховы здароўя на адзін год і прадстаўляюцца апошнімі на разгляд страхавых кас. Страхкасы маюць права ўгрунтаванага адводу ўрачоў. Апошнія выключаюцца з сьпіскаў. У тым-жа парадку ўтвараецца дапаўненьне гэтых сьпіскаў.

Пералік пунктаў першае дапамогі, урачам, якім прадстаўляецца права даваць водпускі, устанаўляюцца мясцовымі органамі аховы здароўя па згодзе са страхкасамі.

4. У тых мясцовасьцях, дзе няма ўрача, права выдачы бальнічных аркушаў можа быць прадстаўлена, па згодзе страхкасы і мясцовага органу аховы здароўя, загадчыку фэльчарскага пункту.

Тэрміны, на якія застрахаваныя ў даным выпадку могуць аслабаняцца ад работы па часовай непрацаздольнасьці з прычыны хваробы, карантыну і догляду за хворым членам сям'і, устанаўляюцца акрстрахкасай па згодзе з мясцовым органам аховы здароўя.

5. Аслабаненьне ад работы па часовай непрацаздольнасьці з прычыны хваробы ўтвараецца лечачымі ўрачамі:

а) у лекавых і лекава-прафіляктычных установах, дзе маюцца ўрачэбныя кансультацыі, на тэрміны, устаноўленыя страхавымі касамі, але ня больш пяці дзён, а ўрачамі дапамогі на даму, у адносіне якіх устаноўлены кантроль у парадку ўрачэбнай кансультацыі—на тэрмін ня больш 2-х тыдняў;

б) у лекавых і лекава-прафіляктычных установах, дзе ўрачэбных кансультацый няма, а таксама ўрачамі дапамогі на даму, у адносіне якіх не ўстаноўлен кантроль у парадку ўрачэбнай кансультацыі, які ўстанаўляецца асобнымі іструкцыямі НК Аховы здароўя Саюзных рэспублік, па згодзе з Цустрахам НКП СССР;

в) у пунктах першае дапамогі на тэрмін ня больш 3-х дзён.

6. Аслабаненьне ад работы пры карантыне ўтвараецца лечачымі і санітарнымі ўрачамі ў парадку і на тэрміны, якія ўстанаўляюцца мясцовымі органамі аховы здароўя, сумесна з страхавымі касамі, на падставе існуючых законапалажэньняў.

7. Аслабаненьне ад работы пры доглядзе за хворым членам сям'і ўтвараецца лечачымі ўрачамі ў парадку і на тэрміны, якія ўстанаўляюцца страхавымі касамі сумесна з мясцовымі органамі аховы здароўя.

8. Водпускі па цяжарнасьці прадстаўляюцца ўрачамі кансультацый па ахове мацярынства і младзенства, а дзе іх няма—лечачымі ўрачамі лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў сумесна з даручанымі ўрачамі, дзе яны маюцца.

## III. Вучот і справаздачнасьць па прадстаўленьні водпускаў лечачымі ўрачамі.

9. Лекавыя і лекава-прафіляктычныя ўстановы абавязаны прадстаўляць у страхкасу не пазьней 5-га чысла наступнага за справаздачным месяца, неабходныя для ўтварэньня кантролю веды аб прадстаўленых водпусках па часовай непрацаздольнасьці па форме, якая ўстанаўляецца Цустрахам НКП СССР па ўзгадненьні з НК Аховы Здароўя Саюзных Рэспублік і НК РСІ СССР.

10. Лекавыя і лекава-прафіляктычныя ўстановы абавязаны ўстанаўляць мэдкартачкі на асоб, атрымаўшх водпуск, у асобных картотэках, для больш латвага агляду іх органамі кантролю страхавых кас.

Картачкі павінны зьмяшчацца ў картотэцы не пазьней 24 гадзін пасьля прадстаўленьня водпуску.

11. На падставе справаздач лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў, справаздач урачэбна-кантрольных органаў і страхавых урачоў, даных, якія распрацоўваюцца страхкасамі, і інш. матар'ялаў, маючыхся ў іх распараджэньні, страхавыя касы ўстанаўляюць неабходнасьць правядзеньня тых ці іншых форм страхавога кантролю ў адносіне да паасобных лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў і лечачых урачоў і прымаюць усе неабходныя мерапрыемствы праз адпаведныя органы для адхіленьня прычын, якія выклікаюць рост захворваемасьці.

## IV. Урачэбны кантроль шляхам рэвізіі.

12. На падставе даных вучоту, у мэтах праверкі правільнасьці прадстаўленьня водпускаў па часовай непрацаздольнасьці, страхкасы ўтвара-

юць рэвізію работы ў гэтай галіне лекавых і лекава-профіляктычных установ і паасобных лечачых урачоў па свайму пагляду.

13. Рэвізіі ўтвараюцца групамі страхавых урачоў па магчымасьці розных спэцыяльнасьцяй альбо паасобнымі страхавымі ўрачамі.

14. Рэвізіі ажыцьцяўляюцца:

а) шляхам перагляду матар'ялаў (як гэта: справаздачнасьці лекавых і лекава-прафіляктычных установ па выдадзеных больнічных аркушах, гісторыі хваробы, амбуляторных карт, больнічных аркушаў), шляхам аналізу парадку хаваньня, вучоту і выдаткаваньня больнічных аркушаў, а таксама шляхам адборачнага абгляду сумесна з лечачым урачом хворых у няпэўных для рэвізіі выпадках;

б) шляхам адборачнай праверкі хворых на даму (арт. 17).

15. Рэвізійныя групы ўстанаўляюць сувязь з фабзаўкомамі, камісіямі па ахове працы, страхавымі дэлегатамі і г. д., прыцягваючы іх да сваёй работы і інфармуючы іх аб выніках рэвізіі.

16. Па сканчэньні работы рэвізійнае групы кіраўнік яе прадстаўляе справаздачу аб рэвізіі ў страхкасу з вывадамі і прапановамі па кожнай лекавай і лекава-прафіляктычнай установе і лечачаму ўрачу паасобку. Страхкаса разглядае справаздачу аб рэвізіі або ўдзеле прадстаўніка адпаведнага мясцовага органа аховы здароўя.

## V. Урачэбны кантроль на даму.

17. Кантроль за хворымі на даму ўтвараецца, як у сувязі з рэвізіяй лекавых і лекава-прафіляктычных установ, так і самастойна, ва ўсіх тых выпадках, калі няма ўпэўненасьці ў правільнасьці прадстаўленьня водпуску, або ў правільнасьці яго выкарыстаньня.

18. Пры наведваньні на даму застрахаваных, якія вызвалены ад работы па часовай непрацаздольнасьці, страхавыя ўрачы высьвятляюць:

а) ці адпавядае стан здароўя хворага тэрміну аслабаненьня ад работы;

б) ці адпавядаюць жыльлёва-бытавыя ўмовы, у якіх знаходзіцца хворы, патрабаваньням пасьпяховага лячэньня. Адначасна страхавыя ўрачы даюць неабходныя тлумачэньні застрахаваным. У выпадку патрэбы страхавыя ўрачы прымаюць меры да зьмяшчэньня хворага ў больніцу;

в) ці выконвае хворы прадпісаньні лечачага ўрача і калі не, то па якіх прычынах.

19. У мэтах выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў (арт. 18), страхавыя ўрачы маюць права ўтвараць абгляд хворых, да якіх яны наведваюцца на дом.

20. У выпадках, калі страхавы ўрач знойдзе, што аслабаненьне ад работы або тэрмін аслабаненьня не адпавядаюць стану здароўя застрахаванага, ён высьвятляе па магчымасьці гэткі выпадак з адпаведным лечачым урачом. У выпадку рознагалосься з лечачым урачом, страхавы ўрач накіроўвае застрахаванага на Ўрачэбна-кантрольную камісію і адначасна паведамляе аб гэтым лечачага ўрача.

21. Калі хворы, якому прадпісана знаходзіцца дома, адсутнічае, страхавы ўрач пакідае яму абвестку аб яўцы ў страхкасу. Ва ўсіх выпадках парушэньня прадпісаньня лечачага ўрача бяз уважлівых прычын, страхавы ўрач накіроўвае застрахаванага да лечачага ўрача або ў страхкасу, або паведамляе іх аб выяўленых ім парушэньнях прадпісаньняў лечачага ўрача (у выпадку немагчымасьці яўкі хворага па стану здароўя).

22. Страхавыя касы могуць, па згодзе з міжсаюзнымі арганізацыямі, ўстанаўляць рабочы кантроль за выкананьнем прадпісаньняў лечачых урачоў.

Рабочы кантроль ажыцьцяўляецца пад кіраўніцтвам органаў страхавога ўрачэбнага кантролю.

23. У заданьні рабочага кантроля ўваходзіць:

а) праверка выкананьня хворым прадпісаньня лечачага ўрача;

б) высьвятленьне жыльлёва-бытавых умоў хворага;

в) дача тлумачэньняў застрахаваным і прыйманьне ад іх скарг.

24. Асобы, што кантралююць хворых на даму, ня маюць права зьмяняць прадпісаньняў лечачых урачоў або даваць самастойныя лекавыя прадпісаньні.

25. Асобы, што кантралююць хворага на даму, робяць аб гэтым адзнакі ў больнічным аркушы.

26. Урачы-кантралёры прадстаўляюць у страхкасу за ўстаноўленыя тэрміны справаздачы аб сваёй рабоце.

## VI. Урачэбны кантроль шляхам урачэбнай кансультацыі.

27. Кантроль шляхам урачэбных кансультацый арганізуецца страхкасамі пры лекавых і лекава-прафіляктычных установах, згодна пастановы калегіі НК РСІ СССР і НКП СССР за 4 траўня 1928 г.

28. Кантроль шляхам урачэбнай кансультацыі арганізуецца ў першую чаргу пры тых лекавых і лекава-прафіляктычных установах, у якіх па даных падліку іх работы або рэвізіяй выяўлены сур'ёзныя недахопы ў галіне вызваленьня ад работы па часовай непрацаздольнасьці.

29. Сьпіскі лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў, пры якіх арганізаваны ўрачэбныя кансультацыі, пэрыядычна пераглядаюцца страхавымі касамі.

30. Пры неабходнасьці прадстаўленьня водпуску па часовай непрацаздольнасьці на тэрмін звыш устаноўленага п. „а" арт. 5, хворыя праходзяць праз кантроль урача-кансультанта па магчымасьці адпаведнай спэцыяльнасьці.

У выпадку разгалосься з лечачым урачом, урач-кансультант прыцягвае да вырашэньня пытаньня, сумесна з ім і лечачым урачом, другога страхавога ўрача, які працуе ў той-жа лекавай або лекава-прафіляктычнай установе. Рашэньні гэткага кансыліюма канчатковы.

Калі ў данай лекавай установе маецца толькі адзін страхавы ўрач і не прадстаўляецца магчымым прыцягнуць другога страхавога ўрача, то разгалосьсі разьвязваюцца ўрачэбна-кантрольнай камісіяй.

31. Урач-кансультант пры налажэньні візы на больнічны аркуш можа ўстанавіць за застрахаваным кантроль на даму.

32. Скаргі застрахаваных на рашэньні па пытаньні аб водпусках, прынятыя лечачымі ўрачамі лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў, пры якіх арганізаваны ўрачэбныя кансультацыі, разьвязваюцца ўрачом-кансультантам сумесна з лечачым урачом.

Парадак абскарджаньня застрахаванымі рашэньняў лечачых урачоў лекавых і лекава-прафіляктычных устаноў, пры якіх не арганізаваны ўрачэбныя кансультацыі, вызначаецца інструкцыямі, паказанымі ў п. „б" арт. 5.

33. У выпадку неабходнасьці, урачэбная кансультацыя накіроўвае застрахаванага для дадатковага дасьледваньня або клінічнага іспыту ў адпаведныя лекавыя або дыягностычныя ўстановы ў парадку, які ўстанаўліваецца мясцовым органам аховы здароўя сумесна з страхкасай.

34. Час і парадак работы ўрачэбных кансультацый вызначаюцца мясцовым органам аховы здароўя па згодзе са страхкасай. Гадзіны работы ўрачэбных кансультацый павінны супадаць з часам прыйманьня ў данай лекавай або лекава-прафіляктычнай установе.

35. Урач-кансультант прадстаўляе рэгулярна справаздачу ў страхавую касу з вывадамі і прапановамі па данай лекавай або лекава-прафіляктычнай установе.

### VII. Урачэбна-кантрольныя камісіі.

36. Урачэбна-кантрольныя камісіі арганізуюцца страхавымі касамі ў складзе: старшыні, прызначанага страхкасай, страхавога ўрача, і ўрача, вылучанага мясцовымі органамі аховы здароўя.

Страхавыя касы маюць права ўключаць у склад урачэбна-кантрольных камісій урачоў-экспэртаў па паасобных спэцыяльнасьцях з правам дарадчага голасу.

37. На ўрачэбна-кантрольныя камісіі ўскладаецца:

а) правядзеньне, у парадку ўрачэбных кансультацый, урачэбна-кантрольных адборачных абсьледваньняў у лекавых і лекава-прафіляктычных установах па прадстаўленьні водпуску па часовай непрацаздольнасьці;

б) інструктаваньне ўрачоў-кансультантаў і кантралёраў на даму;

в) кансультацыя ў лекавых і лекава-прафіляктычных установах па спрэчных выпадках прадстаўленьня водпуску (арт. 30);

г) разгляд канфліктных выпадкаў, якія ня могуць быць разьвязаны на месцы:

д) папярэдняе ўстанаўленьне прымет сталае непрацаздольнасьці ў мясцовасьцях, дзе няма бюро ўрачэбнай экспэртызы і дзе ня могуць быць арганізаваны выязныя сэсіі апошніх з наступным зацьверджаньнем бюро ўрачэбнай экспэртызы;

е) устанаўленьне неабходнасьці водпуску для лячэньня ў іншым горадзе:

ж) выкананьне спэцыяльных даручэньняў страхавой касы па пытаньнях урачэбнага кантроля;

з) вывучэньне ў межах, што зацьвярджаюцца страхавымі касамі, матар'ялаў экспэртызы па часовай непрацаздольнасьці і кантроль за рухам ліку выпадкаў непрацаздольнасьці і працяжнасьці іх.

38. У выпадку неабходнасьці, урачэбна-кантрольная камісія накіроўвае застрахаваных для дадатковага досьледу і клінічнага іспыту ў адпаведныя лекавыя або дыягностычныя ўстановы ў парадку, што ўстанаўляецца мясцовымі органамі аховы здароўя сумесна са страхавой касай.

39. Час і парадак работы ЎКК устанаўляюцца страхавой касай.

40. Урачэбна-кантрольныя камісіі вядуць вучот сваёй работы па ўстаноўленай форме і прадстаўляюць справаздачы страхкасе, з адбіткамі мясцоваму органу аховы здароўя.

### VIII. Адказнасьць лечачых урачоў.

41. Адказнасьць за няправільную выдачу бальнічнага аркуша, а таксама за нядбайнае яго запаўненьне (адсутнасьць або незразумеласьць неабходных запісаў, неразборлівасьць подпісаў) ускладаецца на лечачага ўрача, які падпісаў бальнічны аркуш. Адказнасьць за выдачу лечачым урачом бальнічнага аркуша ўскладаецца і на загадчыка лекавай або лекава-прафіляктычнай установы, які адказвае таксама за хаваньне бальнічных аркушаў і за адсутнасьць пячаткі лекавай установы на выдадзеных бальнічных аркушох.

42. Лечачыя ўрачы, у адносіне да якіх будуць устаноўлены правераныя факты няправільнага прадстаўленьня водпускаў, павінны быць, па прапанове страхкасы, пазбаўлены права прадстаўленьня водпускаў па часовай непрацаздольнасьці.

Пры наяўнасьці прымет злачынства ўзбуджаецца перасьледваньне ў крымінальным парадку.

## IX. Заключныя палажэньні.

43. Страхкасы пэрыядычна інфармуюць органы аховы здароўя аб выніках урачэбнага кантролю, што ўтвараецца імі ў паасобных лекавых і лекава-прафіляктычных установах у галіне прадстаўленьня водпускаў і аб намячаемых страхавымі касамі мерапрыемствах па адхіленьні недахопаў. Акрамя гэтага, страхкасы інфармуюць лечачых урачоў аб выніках работы ўрачэбнага кантролю, для ажыцьцяўленьня чаго імі, сумесна з органамі аховы здароўя, склікаюцца нарады лечачых і страхавых урачоў.

44. З увядзеньнем у дзейнасьць гэтае інструкцыі касуецца інструкцыя Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 31-VIII 1927 г. № 277 аб кантролі страхавых кас над аслабаненьнем ад работы па часовай непрацаздольнасьці („Известия НКТ СССР, 1927 г. № 40—41).

Старшыня СССС **Немчанка**.

Адказ. сакратар **Пятроў**.

---

## Аб працы ў дамох адпачынку.

Ня гледзячы на тое, што дамы адпачынку налічваюць ужо 7-8 гадоў свайго існаваньня, пастаноўка справы ў іх да гэтага часу мае значныя недахопы, аб чым сьведчыць ня толькі шэраг вытвараных Цустрахам абсьледваньняў, але і выступленьні па поваду дамоў адпачынку ў друку і на нарадах і зьездах прафэсійных арганізацый.

З прычыны гэтага Галоўсацстрах лічыць неабходным даць да наступнага сэзону 1929 г. наступныя паказаньні:

1. З паступаючых у Галоўсацстрах справаздач мясцовых страхорганаў відаць, што ў дамох адпачынку пастаноўка мэдычна-санітарнай справы знаходзіцца далёка не на належнай вышыні, а некаторая частка больш падобна на інтэрнаты, чым на дамы адпачынку. Ніякай работы з адпачываючымі па фізвыхаваньню і культрабоце не вядзецца і адпачываючыя на працягу цэлага дню прадастаўлены самым сабе. Часта няма і ўрачэбнага нагляду. У другіх дамох адпачынку на першае мейсца ў пляне работы іх высоўваюцца лекавыя мэтады абслугоўваньня, у адпаведнасьці з чым пры дамох адпачынку арганізуюцца вадалячэбніцы, электрагабінэты і г. д. Склад адпачываючых гэткіх дамоў адпачынку ў значнай частцы—хворыя, адчуваючыя патрэбу ў спэцыяльным урачэбным наглядзе, лячэньні, доглядзе і рэжыме, што зусім скажае асноўную пастаноўку дамоў адпачынку ў мэце прафіляктычных мерапрыемстваў.

Дамы адпачынку павінны быць установамі сурова-прафіляктычнага тыпу, задачай якіх зьяўляецца: а) прадстаўленьне рабочым і служачым арганізаванага актыўнага адпачынку ў працягу іх дэкрэтнага водпуску і б) быць школай здароўя, у якой адпачываючыя набываюць гігіенічныя навыкі і асноўныя прынцыпы захаваньня здароўя, каб яны маглі ў далейшым прынесьці іх у сваю вытворчую і бытавую абстаноўку:

У адпаведнасьці з гэтымі задачамі дамоў адпачынку і вучытваючы вельмі абмежаваную колькасьць мейсц, якую могуць прадставіць страхавыя органы застрахаваным у дамох адпачынку за кошт сродкаў сацстраху: не належаць да прыёму ў дамы адпачынку асобы, у якіх утома і змора залежаць па сутнасьці ад тых альбо іншых (органічных альбо функцыянальных) захворваньняў, патрабуючых лячэньня, а не адпачынку;

асобы, хворыя якімі-б та ні было хваробамі (унутранымі, хірургічнымі, жаночымі, нэрвовымі, вушнымі, скурнымі, вэнэрычнымі і інш.), маючыя патрэбу ў агульным альбо спэцыяльным лячэньні. Пераважнасьць пры накіраваньні ў дамы адпачынку павінны мець рабочыя асабліва шкодных вытворчасьцяй, потым утомленыя, змораныя і малакроўныя ў ступенях і формах, не патрабуючых лячэньня і сыстэматычнага лячэбнага нагляду і догляду, не патрабуючых індывідуальнага рэжыму, дыэтычнага стала і гэтак далей.

2. Адпачынак ад прафэсійнай працы рабочыя і служачыя могуць атрымаць толькі ва ўмовах рацыянальнага скарыстаньня натуральных сіл прыроды: паветра, вада, сонца, а таксама руху ў відзе гімнастычных практыкаваньнях, рухавых іграў і спорту. У адпаведнасьці з гэтым у зьмест работы па фізвыхаваньню ў дамох адпачынку павінна ўваходзіць: а) гімнастычныя практыкаваньні без знарадаў, г. зн. ранішняя зарадка; б) спорт, пры занятках якім павінны быць выключаны элемэнты спаборніцтва і які павінен быць сродкам аднаўленьня сіл адпачываючых. Віды спорта: улетку—хадзьба, грэбля, плаваньне і інш.; узімку—канькі, лыжы, сані і інш.; в) загартаваньне—абмываньні, абціраньні, абліваньні, душы, а ўлетку—яшчэ купаньне, ляжаньне на паветры, сонцы і г. д., рухавыя ігры.

Культурна-асьветная работа ў дамох адпачынку мае задачай аздаравіць нэрвова-псыхіятрычную сфэру адпачываючага і па магчымасьці пашырыць яго кругавід. Гэта работа павінна ўключаць: лекцыі і гутаркі на агульна-адукацыйныя тэмы; б) вечары самадзейнасьці; в) канцэрты і спэктаклі; г) экскурсіі; д) чытаньне і інш. Экскурсіі можна арганізоўваць у недалёкія раёны пехатою для азнаямленьня з мясцовымі выдатнасьцямі, узорнымі саўгасамі, прыгожымі мясцовасьцямі і т. п. Пры доме адпачынку павінна быць добра падабраная бібліятэка, маючая кнігі па розных галінах веданьняў і бэлетрыстыкі, пэрыядычныя часопісы і газэты. Асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць забясьпечаньню бібліятэкі новай літаратурай.

На санасьветную работу ў дамох адпачынку павінна быць зьвернута асаблівая ўвага, як на адзін з асноўных момантаў работы. Набыцьцё адпачываючымі гігіенічных навыкаў (чыстка зубоў, мыцьцё рук перад ядой, мыцьцё ног перад сном і г. д.) павінна стаць сапраўднай задачай дому адпачынку. Належыць сыстэматычна праводзіць лекцыі і гутаркі на тэмы аб значэньні рэжыму ў дамох адпачынку, аб гігіенічных навыках, аб фізвыхаваньні і яго значэньні ў справе аздараўленьня зморанага арганізму і папярэджаньня хваробы і г. д. Сурова праводзімы гігіенічны рэжым у сваю чаргу павінен дапамагаць набыцьцю гігіенічных навыкаў адпачываючымі.

Страхавым касам належыць мець на ўвазе, што асноўнай работай дамоў адпачынку побач з харчаваньнем зьяўляецца фізвыхаваньне і культасьветработа, недастатковасьць якіх альбо нават адсутнічаньне таксама робіць работу дамоў адпачынку не дасягаючай мэты, як адсутнасьць мэдычных установак і лячэньня наогул робіць нязначнай работу санаторыяў. Культасьветработу ў дамох адпачынку страхкасам належыць арганізаваць такім чынам, каб яна была цесна ўвязана з культработай прафэсійных арганізацый, аб чым страхкасы павінны дагаварыцца з мясцовымі прафэсійнымі і міжсаюзнымі арганізацыямі.

Для таго, каб фізвыхаваньне магло быць праведзена належным чынам, страхкасы павінны паклапаціцца сваячасным забясьпечаньнем дамоў адпачынку неабходным інвэнтарам і фіз. і культработы.

Загадчыкам дому адпачынку павінен быць урач, што выцякае з самой сутнасьці задач дамоў адпачынку—правадзіць масавую прафіляктыку. Пагэтаму ў тых выпадках, калі загадчыкам дому адпачынку зьяўляецца гаспадарнік, у штат дому адпачынку павінна быць уключана пасада ўрача (поўнасьцю або па сумяшчэньню ў тых выпадках, калі дом адпачынку мае невялікую колькасьць койкаў).

У кожным доме адпачынку павінен быць абавязкова штатны работнік па культрабоце. У дамох адпачынку ад 150 да 200 койкаў, акрамя культработніка, павінен быць штатны работнік па фізвыхаваньню; у дамох адпачынку з меншай колькасьцю койкаў работа па фізвыхаваньню павінна быць ускладзена альбо на культработніка, альбо на ўрача.

Страхкасам належыць мець на ўвазе, што дазволены Цустрахам выдатак у 5 к. на койка-дзень на культработу, прадназначаны выключна на бягучую работу, г. зн. на лекцыі, гутаркі, спэктаклі, газэты, часопісы і г. д. Утрыманьне фізвыхавальніка і культработніка павінна праходзіць па штатах дамоў адпачынку, а набыцьцё інвэнтару для гэтае работы па каштарысах на надзвычайныя выдаткі.

Страхкасы павінны прыняць меры да таго, каб прабываньне кожнага адпачываючага ў доме адпачынку ня было менш 14 дзён, так як гэта навукова-абаснаваны мінімальны тэрмін, у працягу якога адпачываючы сапраўды можа ўзмацніць сваё здароўе і накапіць энэргію для прадстаячай работы. У якасьці сапраўднага мерапрыемства ў гэтым напрамку страхкасам рэкамэндуецца ўстанавіць такі парадак разьмеркаваньня пуцёвак у дамы адпачынку, каб: а) прыбыцьцё ў дамы адпачынку вытваралася ў дні, наступныя за днём адпачынку (у большасьці раёнаў саюзу гэта панядзелак), і б) каб пуцёўкі былі разьмеркаваны паміж адпачываючымі загадзя і ва ўсялякім выпадку не пазьней, чым напярэдадні дню адпачынку (у большасьці раёнаў саюзу гэта субота). Для гэтае мэты ўсе пуцёўкі ў дамы адпачынку павінны быць страхкасай загадзя разасланы па прафсаюзах, прычым тэрміны пуцёвак павінны быць прастаўлены ў паказаным вышэй парадку. Пры гэтых умовах уся адказнасьць за своечасную пасылку адпачываючых у дамы адпачынку будзе ляжаць на прафсаюзах. Кожны адпачываючы перад накіраваньнем яго ў дамы адпачынку павінен прадставіць мэдычную спраўку аб тым, што ён можа быць накіраваны ў дом адпачынку.

Побач з гэтым страхкасам належыць прыняць меры да таго, каб былі максымальна зжыты цяжкасьці і мытарства, якія часам церпяць адпачываючыя і хворыя пры накіраваньні ў дамы адпачынку і санаторыі па чыгунцы і водным шляхам, а таксама ўстанавіць сустрэчу іх на станцыях альбо прыстанях, якія знаходзяцца недалёка ад дамоў адпачынку альбо санаторыяў.

3. Харчаваньне ў дамох адпачынку павінна быць пабудавана на рацыянальных фізіолёгічных нормах калоража і спажыўнасьці, і ад імкненьня даваць адпачываючым абільную яду, ня лічачыся з нормамі, належыць катэгарычна адмовіцца. Сярэднімі нормамі, якія могуць быць рэкамэндаванымі пры складаньні сутачнага рацыёну адпачываючага, зьяўляюцца: 110,0 прысваемага бялка, 100,0 тлушчы і 500,0—550,0 угляводаў пры калоражы каля 4000 кал. нэто. Усялякага роду сьвежая гародніна і сьвежыя фрукты павінны ўваходзіць у яду адпачываючага па магчымасьці найчасьцей, пажадана штодзённа. Яда павінна быць зьмешанай і рознастайнай, прычым павінны быць вучцены спажыўчыя навыкі і густы асноўнага кантынгэнту адпачываючых рабочых. Акрамя таго, у мэтах утварэньня ў адпачываючых адчуваньня насычанасьці яда павінна быць таксама ў значнай меры ёмістай.

Наступны сутачны рацыён рэкамэндуецца страхкасам у якасьці ўзорнага:

| Найменьне прадуктаў | Колькі. грам | Маецца ў ядзе | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Бялка | Тлушч. | Углявод. |
| Хлеб бел. . . . . . | 250,0 | 13,8 | 0,95 | 141,60 |
| Хлеб арж. . . . . . | 400,0 | 18,8 | 2,3 | 191,70 |
| Мяса і рыба . . . . | 300—400 | 57,0 | 21,7 | 1,2 |
| Масла таплён. . . . . | 25,0 | — | 20,0 | 0,1 |
| „ сьліў. . . . . | 50,0 | 0,3 | 40,0 | 0,3 |
| Мука прывар. . . . . | 20,0 | 1,2 | 0,1 | 12,6 |
| Бульба . . . . . . | 200,0 | 3,2 | 0,3 | 41,2 |
| Гароднiна . . . . . | 200,0 | 1,8 | 0,5 | 17,4 |
| Цукар . . . . . . | 70,0 | — | — | 70,0 |
| Малако . . . . . . | 300,0 | 10,2 | 11,2 | 15,0 |
| Яйкі . . . . . . . | 2 шт. | 12,2 | 11,4 | 0,7 |
| Фрукты суш. . . . . | 100,0 | 1,0 | — | 25,0 |
| альбо сьвежыя . . . | 400,0 | (0,8) | — | (12,0) |
| Гарбата . . . . . . | 2,5 | — | — | — |
| Соль-прыправы . . . | — | — | — | — |
| І інш. . . . . . . | — | — | — | — |
| Разам . . . | — | 119,5 | 108,4 | 515,8 |

4. Галоўсацстрах зварочвае ўвагу страхкас на тое, што, ня гледзячы на зусім яскравыя і дэтальныя паказаньні і супроцьпаказаньні да адбору хворых на курорты, да гэтага часу, згодна справаздачных даных санаторыяў, маецца высокі процант супроцьпаказаных хворых (ад 40 да 50 проц.). Так, напрыклад, у санаторыях на паўднёвым беразе Крыму, прадназначаных за выключэньнем лета, для абслугоўваньня хворых сухотамі, у мінулым годзе было каля 50 проц. так назыв. практычных здаровых людзей, якія ў санаторна-курортным лячэньні ня маюць патрэбы. У санаторыю Цустраху „Красная Москва" ў Сочы, прадназначаную для хворых, маючых патрэбу выключна ў лячэньні серавадароднымі вадамі Мацесты, знаходзіліся хворыя сухотамі, для якіх санаторый зусім не прыстасаваны, у выніку чаго хворыя былі безадкладна адасланы назад. У Кіславодзк, ня гледзячы на вельмі абмежаваныя паказаньні, устаноўленыя для гэтай групы санаторый Цустраха, прадназначаных выключна для абслугоўваньня сардэчных хворых, было 40 проц. хворых функцыянальнымі нэўрозамі. Для гэтых хворых нарзанныя ванны не патрэбны, і такія хворыя пазбаўляюць магчымасьці лячыцца тых, хто сапраўды мае патрэбу ў нарзанных ваннах.

З другога боку, хворыя з устаноўленымі паказаньнямі для санаторыяў Паўднёвага берагу Крыма ў летні час (тубэркулёз жэлез, пляўры і брушыны) амаль не накіроўваліся і складалі каля 2 проц. На гэту абставіну страхкасы павінны зьвярнуць увагу і калі патрэбнасьць у лячэньні хворых з такімі формамі захворваньняў сапраўды невялікая, узьняць перад Цустрахам пытаньне аб пераглядзе паказаньняў для Паўднёвага берагу Крыма на летні час.

Усё сказанае аб адборы гаворыць аб тым, што страхкасам належыць прыняць рашучыя меры да палепшаньня работы адборачных камісій і да дэталёвага захаваньня імі ўстаноўленых для санаторыяў Цустраху паказаньняў і супроцьпаказаньняў. Неабходна забясьпечыць адборачныя камісіі дастатковай колькасьцю экзэмпляраў сьпіску паказаньняў і супроцьпаказаньняў для санаторыяў Цустраху і растлумачыць ім, што паказаны сьпісак мае толькі частку паказаньняў, устаноўленых НК Аховы Здароўя для курортаў наогул. Асноўнай умовай для ўпарадкаваньня адбору хворых на санаторна-курортнае лячэньне зьяўляецца доўгі нагляд хворых у лячэбных установах і правядзеньне ўсіх неабходных для кожнага выпадку дасьледваньняў. Пастановай НК РСІ СССР ад 11-II—29 г. адборачныя камісіі застаўлены ў веданьні страхкас (за выключэньнем Масквы) і страхкасы, такім чынам, маюць поўную магчымасьць і павінны ўпарадкаваць справу адбору і палепшыць якасьць работы ў адборачных камісіях.

З прычыны таго, што пастановай НК РСІ СССР статыстычныя курортныя карткі адменены, адборачныя камісіі павінны прастаўляць дыягназ хворага на пуцёўцы Цустраху ў адпаведным мейсцы і замацоўваць сваім подпісам і пячаткай. Хворым-жа, якія накіроўваюцца на курортнае лячэньне не ў санаторыі Цустраху, павінны выдавацца мэдычныя спраўкі ў адным экзэмпляры аб устаноўленым пры адборы дыягназе, якія спраўкі таксама павінны замацоўвацца подпісамі і пячаткай адборачных камісій.

5. Ня гледзячы на неаднолькавыя катэгарычныя паказаньні, да гэтага часу ўстаноўленыя для рабочых ад варштату 75 проц. норма ў дамох адпачынку і мясцовых санаторыях і 80 проц. для курортаў не захоўваецца. З прычыны гэтага страхкасам належыць устанавіць дакладны нагляд за выкананьнем гэтых нормаў і аб усіх выпадках парушэньня давадзіць да ведама вышэйстаячы страхорган для прыняцьця адпаведных мер. У тых-жа выпадках, калі пасылка ў дамы адпачынку і на санаторна-курортнае лячэньне вытвараецца непасрэдна страхкасай, адказнасьць за парушэньне гэтых нормаў будзе ўскладзена на старшыню страхкасы. Пры гэтым страхкасам належыць мець на ўвазе, што пад „рабочымі ад варштату“ належыць разумець выключна рабочых з вытворчасьці альбо тых, хто прыраўнены да іх адпаведным растлумачэньнем УсеЦСПС. Рабочыя, якія знаходзяцца да моманту адбору на санаторна-курортнае лячэньне альбо да моманту накіраваньня ў дом адпачынку на другой рабоце (партыйнай, савецкай, прафэсійнай і г. д.), а не непасрэдна на вытворчасьці, усе без выключэньня адносяцца да служачых і ва ўстаноўленую для рабочых ад варштату норму не ўваходзяць.

6. Значны лік нараканьняў з боку адпачываючых і хворых у дамох адпачынку і санаторыях выклікае абслугоўваючы іх пэрсанал (няўважлівыя, часам грубыя адносіны, непадрыхтаванасьць да данай работы і г. д.). З прычыны гэтага Галоўсацстрах прапануе страхкасам асаблівую ўвагу зьвярнуць на падбор пэрсаналу ў дамы адпачынку і санаторыі, у асаблівасьці на падбор загадчыкаў дамоў адпачынку і загадчыкаў гаспадаркай і да правядзеньня сярод пэрсаналу работы па ўзразуменьню іх абавязкаў і правоў.

7. Наглядаючыяся ў сучасны момант цяжкасьці з харчаваньнем ставяць перад страхкасамі асабліва важную задачу бесьперапыннага забясьпечаньня дамоў адпачынку і санаторыяў прадуктамі харчаваньня. Страхкасы павінны ўжо дагаварыцца з рэгулюючымі органамі на мясцох і заключыць згоду з каапэрацыйнымі арганізацыямі аб забясьпечаньні дамоў адпачынку і санаторыяў, што мае асабліва важнае значэньне для тых дамоў адпачынку і санаторыяў, якія знаходзяцца далёка ад каапэрацыйнай сеці. Гэтыя-ж дагаворы з каапэрацыйнымі арганізацыямі да-

дуць магчымасьць дамам адпачынку і санаторыям не прыбягаць да прыватнага рынку, ад чаго страхкасы павінны па магчымасьці адмовіцца.

8. З прычыны таго, што ў бягучым годзе страхкасам дазволена выдаткаваць на дамы адпачынку і санаторна-курортнае лячэньне ў значна большай меры, чым у мінулыя гады, Галоўсацстрах папярэджвае, што ніякія перавыдаткі супроць дазволеных сум страхкасамі дапушчацца не павінны пад асабістай адказнасьцю старшыні страхкасы. У сувязі з гэтым страхкасы павінны ўстанавіць дакладны нагляд за выдаткаваньнем сродкаў дамамі адпачынку і санаторыямі і за магчыма поўным укараненьнем рэжыму эканоміі ў асаблівасьці па артыкулах адміністрацыйнагаспадарчых выдаткаў. Гэта асабліва важна ў сучасны момант, так як цяжкасьці з харчаваньнем бягучага году могуць адбіцца на выдатках па артыкулу ўтрыманьня адпачываючых і хворых, а перавыдатак страхкасай ні ў якім разе ня можа быць дапушчаны.

---

## Усім Інспэкцыям Аховы Здароўя і Акрстрахкасам.

Задачы сацыялістычнага пераўтварэньня ўсёй народнае гаспадаркі СССР патрабуюць максымальнае напруджанасьці ўсіх вытворчых сіл рабочае клясы.

Уся партыйная, савецкая і рабочая грамадзкасьць мабілізуе свае сілы для ажыцьцяўленьня гэтых задач. Залогам посьпеху іх разьвязаньня зьяўляецца ўсямернае ўзьняцьце вытворчасьці працы рабочае клясы, шляхам узьняцьця працоўнае дысцыпліны, правядзеньня сацыялістычнага спаборніцтва і барацьбы з прагуламі.

Між тым наглядаецца надта адмоўнае зьявішча ў відзе росту неабаснаваных прагулаў пад відам хваробы, што прычыняе вялізарную шкоду народнае гаспадарцы, выклікае ў органах сацстраху фінансавыя цяжкасьці, якія могуць пацягнуць да перапынкаў у рабоце па забясьпечаньні застрахаваных. За першы квартал 1928-29 г. лік дзён па часовай непрацаздольнасьці ўзрос па ўсяму саюзу на 8,9 проц. па параўнаньні з першым кварталам 27-28 г., што дала перавыдатак супроць бюджэтных меркаваньняў каля 6 мільёнаў рублёў. Па БССР гэты лік дзён за той-жа пэрыяд узрос на 19,7 проц. У сувязі з гэтым перад органамі аховы здароўя, страхавымі касамі і прафсаюзамі стаіць задача сумеснымі захадамі дабіцца максымальнага зьніжэньня ліку аплачваемых дзён па часовай непрацаздольнасьці правядзеньнем наступных мерапрыемстваў:

Па лініі НК Аховы здароўя.

1. Прыблізіць лячэбную сетку да вытворчасьці, павялічваючы лік пунктаў першае дапамогі ў асаблівасьці на прадпрыемствах з павышаным траўматызмам, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пастаноўку першапачатковага лячэньня пры няшчасных выпадках і іх далечваньня.

2. Правесьці магчыма шырэй арганізацыю прыёму актыўна застрахаваных у нерабочыя гадзіны, паўсюдную арганізацыю ў раёнах вячэрніх прыёмаў для застрахаваных. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на водпускі ў раёнах.

3. Прапрацаваць пытаньне аб устанаўленьні пэўнага часу для прыёму паўторных хворых для ўнікненьня неабходнасьці страты часу на чаканьне.

4. Прыняць меры да ўзьняцьця працоўнае дысцыпліны ў лечустановах, не дапушчаючы спазьненьня і дачаснага ўходу з работы.

5. Зьвярнуць увагу лечурачоў на больш асьцярожны падыход да вызваленьня ад працы ў зьвязку з п'янкай, адзначаючы ў бальнічных аркушах аб сувязі гэтае часовай непрацаздольнасьці з фактам п'янкі, альбо яе вынікаў.

6. Сачыць за тым, каб стацыянарныя хворыя не залежваліся без мэдыцынскіх паказальнікаў да гэтага.

Па лініі акрстрахкас:

1. Узмацніць і правільна паставіць урачэбны кантроль на падставе пастановы НК РСІ СССР за 4-V 1928 г. і інструкцыі СССС за 1-III—29 г. пры адначасным узмацненьні адказнасьці лечурачоў за кожны выдадзены водпуск.

2. Правесьці вывучэньне росту вызваляемасьці па паасобных прадпрыемствах, а таксама па паасобных групах застрахаваных, высьвятляючы праз інспэктароў працы і даручаных урачоў прычыны гэтага росту па паасобных прадпрыемствах і праз органы аховы здароўя—рух росту вызваленьня па паасобных лечустановах (амбуляторыі, пункты першае дапамогі, хатняя дапамога, больніцы і г. д.).

3. На рабочых сходах і прадпрыемствах рабіць пэрыядычныя даклады аб руху дзён непрацаздольнасьці і прычынах росту іх, аб дзяржаўнай і грамадзкай шкоднасьці прагулаў і барацьбе з імі.

4. Асьвятляць у друку выпадкі сымуляцыі і агравацыі і націску на ўрачоў з неабаснаванымі патрабаваньнямі водпускаў.

Па лініі страхкас і органаў аховы здароўя—сумесна:

1. Правесьці інструктаваньне лечурачоў у галіне прадстаўленьня водпуску па часовай непрацаздольнасьці.

2. Узяць на вучот часта і працяжна хварэючых, падазроных у сымуляцыі, устанавіць за імі сыстэматычны нагляд, прымацоўваючы іх да пэўных лечурачоў і зьмяшчаючы іх у неабходных выпадках у стацыянары для нагляду.

3. Праводзіць пэрыядычныя нарады лечурачоў і страхавых урачоў па пытаньнях руху дзён непрацаздольнасьці, прычын іх росту і мерапрыемстваў па барацьбе з неабаснаванымі прагуламі, прыцягваючы на гэтыя нарады фабзаўкомы і камісіі па ахове працы тых прадпрыемстваў, у раёне якіх знаходзіцца даная лечустанова.

4. Летнія водпускі прадстаўляць па сурова мэдычных паказальніках і пры наяўнасьці папярэдняга ўрачэбнага нагляду. Наяўнасьць-жа курксніжкі, набытай за свой кошт, альбо за кошт прафэсійных ці гаспадарчых органаў не павінна служыць падставай для прадстаўленьня водпуску, калі неабходнасьць у санаторна-курортным лячэньні не ўстаноўлена УКК.

Нач. Галоўсацстраху *Давідовіч.*

Нар. Кам. Аховы Здароўя *Барсукоў.*

Узгоднена з ЦСПСБ. Заг. АТЭ *Каган.*

---

## II. ПЫТАНЬНІ АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ.

### А. Аб палепшаньні абслугоўваньня інвалідаў працы.

*Дырэктыўны ліст УсеЦСПС І НКП СССР усім страхорганам і прафарганізацыям.*

У сучасны момант страхавыя органы забясьпечваюць некалькі соцен тысяч інвалідаў працы.

Значная частка гэтых інвалідаў, зусім пакідаючы працу па найму, гэтым самым мэханічна выбывае з ліку членаў прафсаюзаў.

Абавязкам прафсаюзных і страхавых арганізацый зьяўляецца ўтварэньне такіх умоў, каб інваліды-пэнсіянэры, якія пакінулі вытворчасьць,

не адчувалі-б сябе адарванымі ад рабочае сям'і і грамадзкага жыцьця і каб выхад з прафсаюзу ні ў якім разе не адбіваўся на бытавым і культурна-асьветным абслугоўваньні.

Палепшаньне ў абслугоўваньні павінна быць дасягнута не за кошт дадатковых грашовых асыгнаваньняў, а шляхам узмацненьня ўвагі да пэнсіянэраў ва ўсіх галінах работы.

Інваліды-пэнсіянэры, былыя члены прафсаюзаў, павінны карыстацца ўсімі культурна-асьветнымі ўстановамі саюзаў (бібліатэкамі, школамі, курсамі і г. п.) нараўне з членамі прафсаюзаў і на аднолькавых з імі падставах маюць права наведваць клюбы, выстаўкі, вечары, фізкультурныя пляцоўкі і іншыя саюзныя ўстановы.

Побач з гэтым страхавыя органы павінны прыняць шэраг мер для лепшага абслугоўваньня ўсёй інваліднай масы. Неабходна, такім чынам паставіць штодзенную работу страхавых кас, каб кожны пэнсіянэр сапраўды ўразумеў, што сацыяльнае страхаваньне зьяўляецца адным з буйнейшых дасягненьняў Кастрычнікавае рэвалюцыі.

Абслугоўваньне пэнсіянэраў павінна ўтварацца такім чынам, каб ня было няўважлівых і нетаварыскіх да іх адносін з боку работнікаў страхавых і прафэсійных арганізацый.

За бюрократычныя, чыноўнічыя, а тым больш зьняважлівыя адносіны да інвалідаў працы, віноўныя павінны карацца, аж да замены іх другімі работнікамі.

Прымаючы меры да лепшага абслугоўваньня ўсіх пэнсіянэраў, саюзныя і страхавыя арганізацыі павінны ў сучасны момант зьвярнуць асаблівую ўвагу на належнае абслугоўваньне рабочых, якія перайшлі на пэнсію з прычыны старасьці.

Самых пэнсіянэраў, асабліва тых, што пакінулі вытворчасьць з прычыны старасьці, трэба прыцягваць да актыўнага садзейнічаньня страхкасам, прафсаюзам, клюбам і г. п. у справе лепшай пастаноўкі страхавога, культурнага і бытавога абслугоўваньня ўсёй масы пэнсіянэраў.

Для ажыцьцяўленьня вышэйпаказанага Галоўсоцстрах НКП БССР лічыць неабходным:

1. Узмацніць культурна-асьветнае абслугоўваньне пэнсіянэраў, прыцягваючы апошніх у саюзныя клюбы, на саюзныя вечары, спэктаклі, да правядзеньня рэвалюцыйных сьвят і г. п.

2. Склікаць пры страхкасах пэрыядычныя (не радзей аднаго разу ў 6 месяцаў) сходы пэнсіянэраў, на якіх ставіць даклады па пытаньнях бягучай палітыкі, чарговых кампаній, работы страхавых органаў, аб фінансавым становішчы сацстрахаваньня, аб зьменах у страхавым заканадаўстве і г. д.

3. Забясьпечыць хутчэйшы разгляд скарг і заяў пэнсіянэраў па пытаньнях абслугоўваньня іх страхавой дапамогай.

4. Палепшыць абслугоўваньне пэнсіянэраў юрыдычнай дапамогай, прадаставіўшы ім поўную магчымасьць карыстацца юрыдычнымі кансультацыямі прафсаюзаў, а таксама садзейнічаць ім пры звароце ў савецкія органы (па пытаньнях навучаньня дзяцей, прадстаўленьня камунальных паслуг і г. п.).

Для садзейнічаньня страхавым касам па абслугоўваньню пэнсіянэраў павінны быць арганізованы камісіі па палепшаньні быту пэнсіянэраў. Камісіі гэтыя абіраюцца на агульных сходах пэнсіянэраў, тэрмінам на год, у колькасьці, якая ўстанаўляецца прэзыдыумам касы, але ня больш 11 чал. Старшынёю камісіі зьяўляецца член камітэту касы. Работа камісіі не аплачваецца.

Заданьні камісіі наступныя:

а) арганізацыя агульных сходаў пэнсіянэраў;

б) садзейнічаньне страхкасам і прафсаюзам па арганізацыі і правядзеньні мерапрыемстваў па культурнаму абслугоўваньню пэнсіянэраў;

в) садзейнічаньне інвалідам працы пры іх звароце ў саюзныя, савецкія і страхавыя органы.

Пастановы камісіі маюць моц пасьля зацьверджаньня іх прэзыдыумам страхавой касы.

Камісіі па палепшаньні быту пэнсіянэраў свайго апарату не ўтвараюць і абслугоўваюцца апаратам страхавой касы. У сваёй рабоце камісіі па палепшаньні быту пэнсіянэраў пададказны як агульнаму сходу пэнсіянэраў, таксама і прэзыдыуму страхавой касы. Члены камісіі могуць быць датэрмінова пераабраны па пастанове прэзыдыуму касы і патрабаваньні агульнага сходу пэнсіянэраў.

---

## Б. Аб правядзеньні мерапрыемстваў па палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных, занятых на будаўнічых і іншых сэзонных работах.

У сучасны момант шэраг сэзонных работ (будаўніцтва, торфараспрацоўкі і інш.) у значнай меры ўжо разгорнуты.

У сувязі з гэтым перад страхавымі органамі паўстае заданьне—зьвярнуць увагу на правільную пастаноўку абслугоўваньня рабочых, занятых на гэтых работах і маючых права на забясьпечаньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня. Работа, якая павінна быць праведзена ў гэтым напрамку, мае мэтай максымальнае прыбліжэньне страхавога апарату да гэтых катэгорый застрахаваных і палепшаньне якасьці і мэтадаў іх абслугоўваньня.

Выходзячы з гэтага неабходна правесьці шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных, занятых на будаўнічых і сэзонных работах. У прыватнасьці Галоўсоцстрах прапануе:

1) Арганізаваць прыйманьне дакумантаў і выплату дапамог непасрэдна на месцы ўтварэньня работ па прынцыпу выплаты дапамогі застрахаваным на прадпрыемствах, з такім разьлікам, каб сэзонны рабочы ня траціў часу на хаджэньне для афармленьня права на атрыманьне дапамогі. У прыватнасьці, неабходна старанна праінструктаваць работнікаў страхкас і пунктаў, занятых вылічэньнем дапамог гэтым катэгорыям рабочых.

2) Праверыць, сумесна з органамі аховы здароўя, стан мэдычных пунктаў і парадак аказаньня мэддапамогі сэзоньнікам, адпаведнасьць існуючай сеткі лекавых устаноў патрэбам занятых на гэтых сэзонных работах рабочых. У тых выпадках, калі мэдычны пункт знаходзіцца на значнай адлегласьці як ад месца работ, так і месца жыхарства сэзоньнікаў трэба ўзбудзіць перад органамі аховы здароўя пытаньне аб арганізацыі часовых мэдпунктаў у мясцох сканцэнтраваньня сэзоньнікаў, аб узмацненьні існуючых мэдпунктаў дадатковым мэдпэрсаналам там, дзе чакаецца сканцэнтраваньне сэзонных рабочых, і аб арганізацыі выездаў урачоў на месца ўтварэньня работ і ў баракі, дзе жывуць сэзонныя рабочыя.

Побач з гэтым неабходна зьвярнуць больш увагі на прапрацоўку плянаў органаў аховы здароўя па арганізацыі аказаньня мэддапамогі сэзоньнікам.

3. Сумесна з прафсаюзамі паставіць належным чынам работу па страхавой асьвеце, арганізуючы для гэтага страхавыя гурткі, лекцыі, гутаркі, вечары пытаньняў і адказаў, кансультацыі і г. д.

4. Арганізаваць з рабочага актыву інстытут страхавых дэлегатаў за кошт рабочых, вылучаемых з вытворчасьці. Забясьпечыць апошніх неабходнай літаратурай і ўцягваць іх у практычную работу. Для арганізацыі страхавых дэлегатаў вылучыць членаў камітэту.

5) Асобнае значэньне мае пытаньне аб правільным дапасаваньні страхавога тарыфу да гэтых работ. Галоўсоцстрах прапануе кіраваацца абежнікам № 100/006/481 за 25/VIII-28 г., устанавіўшы пільны нагляд за правільнай тарыфікацыяй сэзонных работ, выконваемых тэй ці іншай групай рабочых.

6) Маючы на ўвазе, што сэзонныя работы ўтвараюць вялізную магчымасьць для сымуляцыі і наўмыснага калецтва сярод несьвядомай часткі сэзонных рабочых, неабходна гэткія выпадкі выяўляць і абмяркоўваць на рабочых сходах сярод сэзоньнікаў. Неабходна сумесна з прафарганізацыямі ўзьняць грамадзкую думку вакол гэтых зьяў, якія дапамагаюць раскладу працоўнай дысцыпліны, асьвятляючы гэтыя пытаньні ў друку, насьценгазэтах, лекцыях і г. п.

---

## В. Аб мэтадах абсьледваньня беспрацоўных.

Абсьледвацельскай работай у страхкасах ня толькі не абхоплены ўсе беспрацоўныя, але нават не абхоплена тая частка, якая па сваёй прафэсіі мае магчымасьць працаваць дома (краўцы, скурнікі, плотнікі, хатнія працаўніцы і інш.).

Часткова гэта тлумачыцца тым, што з боку работнікаў камітэту няма адпаведнага нагляду за гэтаю работай, не вядзецца ніякага падліку работы абсьледвацеляў.

Калі-б вёўся вучот, магчыма-б было паглыбіць гэту работу ў бок накіраваньня яе на абсьледваньне тых груп беспрацоўных, якія працуюць і атрымоўваюць дапамогу. Аднак, калі-б нават павялічыць маючыйся штат абсьледвацеляў, дык і тады ён ня здоляе абсьледваць кожнага беспрацоўнага паасобку.

Між тым, з маючыхся матар'ялаў, а таксама як відаць з рэзалюцыі прэзыдыумаў КПБ па дакладах страхкас, моманты злоўжываньняў дапамогамі па беспрацоўю значна распаўсюджаны. Апошняе, бязумоўна, яшчэ больш пагаршае і так напруджаны фінансавы стан страхорганаў.

У мэтах адпаведнае барацьбы са злоўжываньнямі і прыцягненьня да гэтае справы грамадзкае думкі неабходна:

а) дамагацца пастаноўкі пытаньня аб злоўжываньнях беспрацоўных на пасяджэньнях прэзыдыумаў гарсаветаў, з тым каб прыцягнуць членаў сэкцыі працы гарсавету да работы па абсьледваньні беспрацоўных. Да гэтае работы можна прыцягнуць і страхавых дэлегатаў;

б) завесьці вучот работы абсьледвацеляў (колькасьць абсьледваньняў і колькасьць выяўленых злоўжываньняў) для накіраваньня іх работы ў бок абсьледваньня тых прафэсій беспрацоўных, якія маюць магчымасьць працаваць дома;

в) шырока інфармаваць прафсаюзную грамадзкасьць аб маючых месца злоўжываньнях для распрацоўкі мэтодаў дапамогі прафсаюзаў страхкасам у гэтай рабоце;

г) шырока інфармаваць праз друк аб кожным паасобным выпадку злоўжываньняў і справы аб іх перадаваць у судовыя органы.

---

## Г. Аб парадку вучоту пэрсанальных пэнсіянэраў і парадку ўзаемных разрахункаў за іх з Наркамсабезам.

Пры Галоўсоцстраху адбылася нарада, на якой прысутнічаў прадстаўнік НКСЗ і Менскай акрстрахкасы, па пытаньні аб парадку вучоту пэрсанальных пэнсіянэраў і парадку ўзаемных разрахункаў за іх з НКСЗ.

На нарадзе былі прыняты наступныя пастановы:

1) пры кожным афармленьні новае справы Наркамсабезам, апошні адначасна ўзгадняе з Галоўсоцстрахам разьмер працоўнай пэнсіі і тэрмін, з якога яна прызначаецца. Да гэтага моманту НКСЗ павінен прадставіць усе неабходныя дакуманты, уключаючы акт ГУЗ на данага інваліда на прадмет вызначэньня групы інваліднасьці і права на працоўную пэнсію.

2) Дзякуючы напружданаму фінансаваму становішчу органаў соцстраху, Галоўсоцстрах павінен вытвараць разрахункі з Наркамсабезам шляхам перадачы сум уперад толькі за адзін месяц.

3) Галоўсацстрах дае кожнай акрстрахкасе сьпісак прынятых пэнсіянэраў і дасылае ў далейшым усякія зьмены ў ім як па выбыцьці, таксама і па прыйманьні новых пэнсіянэраў.

4) Згодна атрыманага ад Галоўсоцстраху сьпіску пэнсіянэраў і дадатковых зьвестак аб зьменах у ім, камітэт страхкасы вядзе вучот гэтых пэнсіянэраў як на атрымоўваючых пэнсію адзінак, так і па прылічваючыхся ім сумах.

5) Штомесячна страхкаса складае разрахунак прылічваючайся пэнсіі, разносіць яе па асабістых рахунках кожнага пэнсіянэра, а агульную суму праводзіць у выдатак, крэдытуючы рахунак Галоўсоцстраху па ўзаемаразрахунках, аб чым пасылае Галоўсоцстраху авізо, у якім паказана агульная сума за месяц.

---

## Д. Аб пабудове каталёгаў упаўнаважаных на раёнах.

Нарада канстатавала:

1) што неабходна адзнакі аб усіх выдачах рабіць замест кніг на асабістых рахунках. Пераход на гэту форму адзнак утварыць на інвалідаў адначасна, а на беспрацоўных і застрахаваных па часавой непрацаздольнасьці паступова на ўсе новыя выдаткі;

2) што падвойныя запісы ў асабістых рахунках па часовай непрацаздольнасьці забіраюць шмат часу і не даюць у рабоце ніякага эфэкту. Акрстрахкасам неабходна прапрацаваць гэта пытаньне, адначасна запытаўшы думку райупаўнаважаных адносна мэтазгоднасьці паказанага мерапрыемства.

---

## Пастанова па дакладу Галоўсоцстраху аб рабоце па спрашчэньні і палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных на паседжаньні прэзыдыуму ЦСПСБ 6/VI-29 г.

1. Адзначыць некаторае палепшаньне работы страхкасы па абслугоўваньню застрахаваных, якія выражаюцца ў:

а) прыбліжэньні да застрахаваных выплаты дапамог па часовай непрацаздольнасьці і дадатковых відах праз арцельшчыкаў на прадпрыемствах і ўстановах, якія налічваюць больш 50 чал.;

б) перасылцы на дом праз спэцыяльных арцельшчыкаў пэнсіі пэнсіянэрам, жыхарствуючых у гарадох;

в) устанаўленьне адзінай структуры апарату акруговых страхкас.

2. Разам з гэтым прэзыдыум ЦСПСБ адзначае наступныя недахопы ў рабоце страхавых органаў Беларусі:

а) факты цеганіны асабліва па пэнсійных справах (у Гомелі ўсякая справа па прызначэньні пэнсіі праходзіць праз некалькі рук);.

б) выпадкі фармальнага і бюракратычнага падыходу да зварочваючыхся ў страхкасу з боку асобных супрацоўнікаў;

в) недастатковае прыбліжэньне апарату да застрахаванай масы ў сэнсе дастаўкі пэнсіі на дом жыхарствуючым на раёнах праз пошту і пастаноўкі выплаты дапамогі беспрацоўным;

г) недастаткова кваліфікаваны падбор супрацоўнікаў у некаторых страхкасах;

д) слабая сувязь страхкас з прадпрыемствамі і ўстановамі;

е) слаба разгорнута праца ў галіне масавай і страхасьветнай работы.

3. Для зжыцьця маючыхся недахопаў і яшчэ большага пашырэньня і паглыбленьня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі працы страхавых органаў прэзыдыум ЦСПСБ лічыць неабходным у далейшым:

а) Галоўсоцстраху і яго органам на мясцох прыняць рашучыя меры да зжываньня момантаў фармальных і бюрократычных адносін да застрахаваных.

Улічваючы, што рацыяналізатарская работа па палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных можа быць поўнасьцю ажыцьцёўлена пры актыўным удзеле ў гэтай працы экономкамісіі, прапанаваць саюзу савгандальслужачых прыняць неабходныя меры для ўзьняцьця работы эканомнарад і камісій страхавых органаў;

б) перайсьці поўнасьцю на дастаўку пэнсіі пэнсіянэрам на дом у гарадох праз арцельшчыкаў і ў адлеглых мясцовасьцях праз пошту;

в) правесьці мерапрыемствы па палепшаньні сыстэмы выплаты дапамогі беспрацоўным з тым, каб ліквідаваць згуртаваньне беспрацоўных у страхкасах у дні выплаты;

г) АПБ зьвярнуць увагу на падбор работнікаў страхкасы і недапушчаць частай іх зьмены;

д) наладзіць сыстэматычную справаздачнасьць органаў сацыяльнага страхаваньня на буйных прадпрыемствах для чаго страхкасы павінны дамовіцца з адпаведнымі ФЗМК для ўключэньня ў іх пляны работы пастаноўкі гэтых дакладаў.

5. Прафсаюзам неабходна аказаць страхорганам поўнае садзейнічаньне ў галіне правядзеньня масавай страхасьветнай работы, а таксама лічыць неабходным папоўніць бібліотэкі пры клюбах, чырвоных кутках папулярнай літаратурай па сацстрахаваньні.

6. Галоўсоцстраху неабходна больш поўна ахапіць сацыяльным страхаваньнем батрацтва і прыняць меры да максымальнага палепшаньня абслугоўваньня іх.

У лістападзе месяцы заслухаць даклад Галоўсоцстраху на прэзыдыуме ЦСПСБ па абслугоўваньню батрацтва.

---

Агалашаючы ніжэй пастанову СССС пры НКП СССР, Галоўсоцстрах прапануе ўсім акрстрахкасам ужыць неабходныя захады да няўхільнага выкананьня гэтых пастаноў.

## Пастанова Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР

*ад 6 чэрвеня 1929 г., № 205.*

„Аб нявыдачы дапамогі за першыя 3 дні часовай непрацаздольнасьці, якая зьяўляецца вынікам вострага ап'яненьня альбо ўчынкаў, выкліканых вострым ап'яненьнем“.

У сувязі з выданьнем пастановы СНК СССР ад 5 красавіка 1929 г. аб зьмяненьні пастановы СНК СССР ад 15 студзеня 1927 г. аб мерапрыемствах па барацьбе з прагуламі (З. З. СССР, 1929 г., № 26, арт. 236), Саюзны Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР пастанавіў.

Уводную частку арт. 38 і п. „а" арт. 38 правіл аб прызначэньні і выдачы дапамогі па часовай непрацаздольнасьці, зацьверджаных Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР 9 мая 1927 г. за № 121 („Известия НКТ СССР", 1927 г., № 23) выкласьці ў наступнай рэдакцыі:

„38. Дапамога застрахаванаму не выдаецца ў выпадках:

а) непрацаздольнасьці, якая зьўляецца вынікам вострага ап'яненьня застрахованага альбо ўчынкаў, выкліканых вострым ап'яненьнем (бойка, раненьне і г. д.), прычым у абодвых выпадках дапамога не выдаецца за першыя тры дні непрацаздольнасьці, незалежна ад агульнай яе працяжнасьці".

Старшыня СССС *Котаў*.

Адказны Сакратар *Майзель*.

## III. ПЫТАНЬНІ АПЭРАЦЫЙНАЕ ПРАЦЫ.

*Выпіс з пастановы СССС пры НКП СССР ад 9/V 1929 г.*

### А. Аб выкананьні бюджэту сацстрахаваньня.

Становішча бюджэту сацыяльнага страхаваньня застаецца і зараз усё яшчэ напруджаным.

Неабходна органам соцстраху паставіць перад сабой, як першачарговыя задачы наступныя:

1) узмацненьне працы па спагнаньні страхавых узносаў і канчаткова ліквідаваць старую запазычанасьць;

2) пачаць падрыхтоўчую работу на прадмет павышэньня тарыфу;

3) вывучэньне сацыяльнага страхаваньня беспрацоўных і інвалідаў і ў адпаведнасьці з вывадамі прыняцьце шэрагу практычных мерапрыемстваў;

4) распрацоўка дадатковых мерапрыемстваў, сумесна з органамі аховы здароўя, у адносіне ўпарадкаваньня справы ўрачэбнага кантролю, урачэбнай дапамогі, а таксама ўрачэбнай экспэртызы.

### Б. Аб выдачы капіталізаваных дапамог беспрацоўным, якія перасяляюцца Ўсесаюзным Перасяленчаскім Камітэтам.

1) У выпадку перасяленьня Ўсесаюзным Перасяленчаскім Камітэтам або яго ўпаўнаважанымі беспрацоўнага, які мае права на забясьпечаньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня па беспрацоўю, перасяляемы беспрацоўны абавязан паведаміць аб гэтым у страхкасу па месцы атрыманьня дапамогі.

2) Страхавая каса (арт. 1) выплачвае беспрацоўнаму прылічваючуюся па дзень выезду дапамогу па беспрацоўю і выдае яму даведку-атэстат аб наяўнасьці ў яго права на дапамогу па беспрацоўю.

3) Па прыбыцьці беспрацоўнага да месца перасяленьня, яму выдаецца адначасная дапамога ў разьмеры 135 руб.

Паказаная дапамога выдаецца яму страхавой касай па новаму месцу яго жыхарства пасьля прадстаўленьня ім:

а) паказанай у арт. 2 даведкі—атэстата і

б) пасьведчаньня ад мясцовага органа Перасяленчаскага Камітэту аб усяленьні данае асобы на вучастак.

4) Па атрыманьні беспрацоўным адначаснае дапамогі (арт. 3) выдача яму дапамогі па беспрацоўю спыняецца.

5) У выпадку звароту беспрацоўнага з месца перасяленьня, выдача дапамогі па данаму выпадку беспрацоўя можа быць адноўлена не раней, як пасьля зыходу 2-х год з дню выплаты адначаснае дапамогі (арт. 3), прычым сума адначаснае дапамогі не залічваецца ў лік 18 месячных выдач.

## В. Аб сацыяльным страхаваньні асоб, накіроўваемых біржамі працы ў прадпрыемствы звыш броні.

1. Навучаньне або перанавучаньне ў парадку індывідуальнага або брыгаднага вучнёўства асоб, накіроўваемых біржамі працы ў прадпрыемствы звыш броні за рахунак страхавых кас або бірж працы, або органаў Наркамасьветы—разглядаецца ў адносіне соцыяльнага страхаваньня, як работа па найму.

2. Узносы на соцыяльнае страхаваньне з узнагароды, якая выплачваецца прадпрыемствамі паказаным у арт. 1 асобам, вылічваюцца на агульных падставах.

3. Дапамога па часовай непрацаздольнасьці вылічваецца паказаным ў арт. 1 асобам наступным чынам:

а) накіроўваемым у прадпрыемствы за лік страхавых кас дапамога па часовай непрацаздольнасьці вылічваецца з разрахунку ўзнагароды, атрымоўваемай імі ад прадпрыемства, прычым дапамога, што выдавалася ім дадаткова страхкасай, выплачваецца ім і далей у пэрыядчасовай непрацаздольнасьці на ранейшых падставах;

б) накіраваным у прадпрыемствы за рахунак органаў Наркамасьветы і пры тым прадаўжаючым жыць у дзіцячых дамох—дапамога па часовай непрацаздольнасьці вылічваецца з разрахунку ўзнагароды, якая атрымоўваецца імі ад прадпрыемства;

в) іншым дапамога па часовай непрацаздольнасьці вылічваецца з разрахунку агульнай сумы, атрымоўваемай у час работы ў парадку звыш броні (як ад прадпрыемства, таксама і ад біржы працы або органа Наркамасьветы).

4. Пэнсія па інваліднасьці або ў выпадку страты кармільца вылічваецца паказаным у арт. 1 асобам і членам іх сем'яў у наступных разьмерах:

а) калі даная асоба да паступленьня ў прадпрыемства ў парадку звыш броні работала калі-небудзь па найму і калі пры гэтым яе сярэдні месячны заробак быў ня ніжэй агульнай сумы, якую даная асоба потым атрымоўвала ў час работы ў парадку звыш броні (як ад прадпрыемства, так і ад страхкасы, або біржы працы ці органа Наркамасьветы), то пэнсія вылічваецца з разрахунку яе заробку да наступленьня беспрацоўя;

б) ва ўсіх іншых выпадках пэнсія вылічваецца з разрахунку агульнай сумы, якую даная асоба атрымоўвала ў час работы ў парадку звыш броні (як ад прадпрыемства, так і ад страхкасы, або біржы працы ці органа Наркамасьветы).

*Увага.* Пад сярэднім месячным заробкам у п. „а“ гэтага артыкулу трэба разумець заробак, які вылічваецца згодна арт. арт. 28—31 правіл забясьпечаньня ў парадку сацыяльнага страхаваньня па інваліднасьці і на выпадак страты кармільца, зацьверджаных Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 4 ліпеня 1928 г. за № 397 („Известия НКТ СССР“, 1928 г., № 28—29).

5) Гэта пастанова ўводзіцца ў дзейнасьць з 1 чэрвеня 1929 г.

**Г. Аб парадку забясьпечаньня пэнсіямі асоб, ужо атрымоўваўшых пэнсію і зьнятых з прычыны аднясеньня іх органамі ўрачэбнай экспэртызы да 3-х ніжэйшых груп інваліднасьці.**

У правілах па інваліднасьці, зацьверджаных СССС 4/VII-28 г. № 396, не прадугледжана пытаньне аб парадку забясьпечаньня пэнсіямі асоб, ужо атрымаўшых пэнсію і зьнятых з прычыны аднясеньня іх органамі ўрачэбнай экспэртызы да 3-х ніжэйшых груп інваліднасьці. У далейшым трэба дапасаваць да іх парадак, прадугледжаны арт. 21 Правіл для асоб, спыніўшых работу па найму, г. зн. захаваць за імі права на аднаўленьне пэнсіі ў працягу 2-х год з дню зьняцьця іх з пэнсіі.

Інваліды працы, зьнятыя з пэнсіі, з прычыны аднясеньня іх органамі ўрачэбнай экспэртызы, да 4, 5 і 6 групы інваліднасьці, захоўваюць права на аднаўленьне пэнсіі ў працягу 2-х год з дню зьняцьця іх з пэнсіі, калі яны ў гэты двохгадовы тэрмін паўторна будуць аднесены ўрачэбнай экспэртызай да 1, 2 і 3 груп інваліднасьці.

Старшыня СССС *Котаў*.
Адк. Сакратар *Пятроў*.

---

## IV. ПЫТАНЬНІ ФІНАНСАВАЙ ПРАЦЫ.

*Пастанова Прэзыдыуму ЦСПСБ ад 4/IV-29 г. па дакладу Галоўсоцстраху аб фінансавым становішчы страхавых органаў і аб выкананьні бюджэту ў 1927/28 годзе.*

1. Канстатаваць, што фінансавае становішча страхорганаў Беларусі ня гледзячы на памяншэньне дэфіцытнасьці, дзякуючы падвышэньню якасьці фінансавай працы, застаецца ўсё-ж вельмі напруджаным, пагражаючым мясцамі перабоямі ў забясьпечаньні застрахаваных.

2. Дзеля далейшага ўзмацненьня фінансавай базы, лічыць неабходным правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

а) яшчэ больш узмацніць работу па выяўленьню захаваных страхавацеляў і захаванай зарплаты, пашырыць практыку прыцягненьня да адказнасьці за непрадстаўленьне разрахунковых ведамасьцяй, прадстаўленьне няправільных ведаў аб зарплаце і неплацеж страхузносаў;

б) перагледзець сьпіс прадпрыемстваў, праходзячых па ільготнаму тарыфу на прадмет зваротнага пераводу фінансава-ўзмоцненых на нармальны тарыф. Вытварыць праверку правільнасьці ўстаноўленых касамі тарыфаў на падставе існуючых законапалажэньняў.

Адначасна з гэтым даручыць Галоўсоцстраху сумесна з АТЭ і НК Працы распрацаваць пытаньне аб унясеньні страхузносаў больш узмацненымі п/калектывамі.

в) Не дапушчаць паслабленьня ў адносіне новага парадку ўплаты страхузносаў—2 разы ў месяц, толькі ў выключных выпадках у адносіне невялікага кола маламоцных страхавацеляў лічыць магчымым паступовы пераход на новы парадак уплаты страхузносаў на падставе папярэдняй дагаворанасьці;

г) забясьпечыць сваячаснае атрыманьне страхкасамі зацьверджаных ва ўстаноўленым парадку цьвёрдых каштарысаў. Устанавіць сыстэматычны нагляд за выкананьнем цьвёрдых каштарысаў і недапушчэньнем перавыдаткаў;

д) даручыць Галоўсоцстраху распрацаваць і ўнесьці ў Прэзыдыум ЦСПСБ канкрэтныя прапановы аб мерапрыемствах да скарачэньня нявытворчых апэрацыйных выдаткаў, якія не ўтвараюць ушчэрбку для асноўнай масы застрахаваных;

е) прымаючы пад увагу наяўнасьць выпадкаў злачынства з боку паасобных застрахаваных, як гэта: атрыманьне дапамогі па беспрацоўю асобамі, маючымі фактычна работу, сымуляцыі і г. д., лічыць неабходным, каб страхкасы ўзмацнілі барацьбу з гэтымі зьявішчамі.

Усім прафарганізацыям сумесна з страхорганамі завастрыць сваю ўвагу на барацьбу з сымуляцыяй хвароб, мабілізаваўшы вакол гэтага пытаньня грамадзкую думку рабочых мас. Прафарганізацыям аказваць страхкасам сыстэматычнае садзейнічаньне ў выяўленьні выпадкаў няправільнага атрыманьня дапамог і выпадкаў сымуляцыі і агравацыі;

ж) выходзячы з неабходнасьці забясьпечыць бесьперабойную выплату дапамогі і пэнсій застрахаваным ва ўсіх акругох, лічыць правільным праводзіць плянавае рэгуляваньне сродкаў, шляхам перасоўваньня іх з памысных у дэфіцытныя акругі;

з) дзеля паніжэньня каэфіцыентаў захварваемасьці і прамысловага траўматызму сярод застрахаваных Беларусі, якія зьяўляюцца вельмі высокімі, лічыць неабходным: 1) узмацніць удзел даручаных урачоў у распрацоўцы правадзімых органамі Аховы Здароўя і Аховы Працы аздаравіцельных мерапрыемстваў на фабрыках і заводах, а таксама і ў распрацоўцы ўсіх мерапрыемстваў па арганізацыі мэддапамогі застрахаваным; 2) шырока скарыстоўваць пэрыядычны друк для высьвятленьня дзейнасьці ўрачэбнага кантролю, выяўленьня праз друк яўных выпадкаў сымуляцыі і агравацыі і ўтварэньня над імі наглядных працэсаў; 3) устанавіць цесны кантакт з камісіямі па ахове працы на прадпрыемствах; 4) сыстэматычна азнаямляць лекавых урачоў з бягучымі пытаньнямі страхавой палітыкі.

Даручыць страхорганам сумесна з саюзам мэдсанпрацы правесьці работу сярод урачоў аб больш правільным абслугоўваньні застрахаваных.

і) Даручыць АТЭ сумесна з Галоўсоцстрахом і НК Аховы Здароўя распрацаваць пытаньне аб мэтазгоднасьці перадачы бюро ўрачэбнай экспэртызы органам сацыяльнага страхаваньня.

3. Прапанаваць ЦП саюзу даць дырэктывы ўсім сваім нізавым арганізацыям аб аказаньні мясцовым страхорганам як у горадзе, так і на раёнах, сыстэматычнага садзейнічаньня ў правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў, накіраваных да далейшага ўзмацненьня фінансавага становішча страхорганаў Беларусі, шляхам аказаньня садзейнічаньня страхорганам у сэнсе выяўленьня неакуратных плацельшчыкаў, укрывацеляў зарплаты, сваячаснай уплаты страхузносаў, а таксама садзейнічаць у палепшаньні мэтадаў абслугоўваньня застрахаваных мас.

4. Усім АПБ узмацніць садзейнічаньне страхорганам у іх штодзеннай рабоце.

---

## V. ПЫТАНЬНІ, АДКАЗЫ І РАСТЛУМАЧЭНЬНІ.

### А. Аб вучоце па страхаваньні асоб, якія працуюць у сялянскіх гаспадарках.

У сувязі з тым, што ў некаторых касах узьніклі сумненьні ў вучоце па страхаваньні асоб, якія працуюць у сялянскай гаспадарцы, статыстыка Галоўсоцстраху гэтым растлумачвае:

1) Вучот застрахаваных (табліца 1 месячнай справаздачы) вытвараецца ўпаўнаважанымі, прычым застрахованыя лічацца на вучоце да таго часу, калі ня скончыцца тэрмін іх страхаваньня (веды аб гэтым упаўнаважаныя маюць у працумовах і заявах аб дабраахвотным страхаваньні).

2) Некаторыя касы маюць сумненьне ў тым, што ў зімовым пэрыядзе колькасьць застрахаваных зьніжаецца. Гэтая акалічнасьць зьяўляецца

нармальнай, бо праца батракоў і пастухоў галоўным чынам сэзонная. Яшчэ раз падкрэсьліваем, што застрахаваныя на сяле павінны знаходзіцца на вучоце толькі на час, які агаворany ў працумовах і заявах аб дабравольным страхаваньні.

Калі аб прадаўжэньні працы ўпаўнаважаны не паведамлены, дык застрахаваны зьнімаецца з вучоту.

Зварочваем Вашу ўвагу на тое, што апошнія даныя кас аб колькасьці застрахаваных на сяле ва ўсіх касах зьяўляюцца праўменшанымі, акрамя Менскай касы, якая паказала вельмі многа пастухоў і батракоў—да 6 %. Калі статыстычныя веды адпавядаюць сапраўднасьці, дык страхаваньне батракоў кулацкіх гаспадарак яшчэ далёка не праведзена ў жыцьцё. Для азнаямленьня даем наступную табліцу:

**Колькасьць застрахаваных на сяле.**

| | | Усяго. | У тым ліку па 10 %. |
|---|---|---|---|
| Менская | акрстрахкаса . . | 959 | 133 |
| Барысаўская | „ . . | 2 | — |
| Гомельская | „ . . | 7 | 1 |
| Віцебская | „ . . | 90 | 18 |
| Бабруйская | „ . . | 39 | 2 |
| Магілеўская | „ . . | 141 | 24 |
| Аршанская | „ . . | 242 | 22 |
| Полацкая | „ . . | 17 | — |
| Мазырская | „ . . | 167 | 1 |

Лічбы некаторых кас (Гомельскай і Барысаўскай) зьяўляюцца тым больш цікавымі, што яны сьведчаць аб поўнай адсутнасьці страхаваньня батрацтва і пастушаства. Галоўсацстрах ставіць пад сумненьне гэтае становішча і прапануе старшыням страхкас прадставіць у тэрміновым парадку вычэрпанае тлумачэньне адносна гэтага. Такой-жа падазронай зьяўляецца вельмі малая дапамога застрахованым на сяле, якая зусім адсутнічае ў сялянска-гаспадарчых акругах (Бабруйск, Магілеў і Мазыр). Як відаць, вучот іх пастаўлен зусім дрэнна і ўпаўнаважаныя ня робяць неабходных адзнак на выдатковых дакумэнтах; касы-ж не клапацяцца аб належнай пастаноўцы вучоту.

Падрабязнае тлумачэньне аб становішчы вучоту і самай справы страхаваньня прадстаўце ў тэрміновым парадку.

## Б. Аб выдачы грошай перасяляемым беспрацоўным.

Галоўсацстрах растлумачвае, што выдача грошай беспрацоўным, перасяляемым перасяленчаскім камітэтам (пастанова СССС ад 9-V—29 г. № 7) датычыцца ня толькі тых беспрацоўных, якія накіроўваюцца ў Біра-Біджан, але-ж усіх перасяляемых перасяленчаскім камітэтам, незалежна ад месца перасяленьня.

### Аб выдачы літароў на ільготны праезд інвалідам і беспрацоўным і авансах дзеля гэтае мэты.

Цустрах паведаміў нас аб тым, што за апошні час наглядаецца павялічаны наплыў у Маскву пэнсіянэраў, інвалідаў і беспрацоўных, якія прыяжджаюць з іншых гарадоў, без дастаткова-сур'ёзных падстаў і знаходзяцца ў вельмі цяжкіх умовах. Пражыўшы ўзяты аванс, без усялякіх сродкаў для існаваньня, без кватэры, яны прымушаны ад'яжджаць назад з Масквы, дзеля чаго зварочваюцца ў Цустрах, з просьбай аб выдачы літароў і грошай на зваротны праезд. Цустрах лічыць гэткае зьявішча недапушчальным і ў далейшым ніякіх выдач рабіць больш ня будзе.

Галоўсацстрах прапануе ўсім акрстрахкасам у далейшым з асаблівай сур'ёзнасьцю адносіцца да выдачы літароў на ільготны праезд і ні ў якім разе не выдаваць ніякіх авансаў для гэтае мэты.

Выключэньні могуць рабіцца толькі ў выпадках праўдзівай і тэрміновай патрэбы.

**Аб прыраўненьні да рабочых тых вылучэнцаў, якія вылучаюцца на пасады служачых, зволеных па чыстцы апарату, пры разьмеркаваньні куротн. і санаторных месц.**

У сувязі з чысткай савецкага апарату на зволіўшыяся пасады ў сучасны момант вытвараецца масавае вылучэньне рабочых ад варштату. Згодна з выключэньнем УЦСПС пры разьмеркаваньні куротн. і санаторных месц на працягу 1929 г. да рабочых належыць прыраўняць усіх тых вылучэнцаў, якія будуць вылучаны на пасады служачых для замены зволеных па чыстцы савецкага апарату.

---

**Пытаньне:** 10-га чэрвеня ў Камітэт Віцебскай Акрстрахкасы зьвярнуўся гр. Цлаў, Абрам Мэндэляў, маючы на руках беспрацоўную кніжку Барысаўскай Акрстрахкасы за № 4183, па якой відаць, што ён атрымаў дапамогу за студзень м-ц, у той час, калі па яго дакумэнтах відаць, што ён нараджэньня 1913 году і працаваў саматужнікам-вучнем. Просім растлумачыць ці не пасылалі Вы асобных артыкулаў Барысаўскай страхкасе, наконт выдачы дапамогі па беспрацоўю гэтым асобам, таму што згодна маючыхся арт. на гэты конт яскрава тлумачыцца, што вучні, працуючыя ў саматужнікаў і не дасягнуўшыя 20-гадовага ўзросту, права на дапамогу ня маюць.

Адказ: Барысаўская страхкаса выплачвала дапамогу па беспрацоўю няправільна, бо вучні да 20 год, занятыя ў саматужнікаў, каапэрацыйных арцелях і г. д., па беспрацоўю не страхуюцца і ў выпадку беспрацоўя, пасьля вывучэньня, права на дапамогу ня маюць.

*(Полацкая каса).*

**Пытаньне:** 11-га чэрвеня г. г. № 241-249 ад Галоўсацстраху атрымана інструкцыя ГУС'а пры Наркампрацы РСФСР па форме справаводзтва па страхаваньню асоб, занятых па найму ў сялянскіх гаспадарках, Акрстрахкаса просіць паведаміць ці пасланы гэтыя інструкцыі да кіраваньня альбо толькі да ведама.

Адказ: Інструкцыя гэта паслана да кіраваньня.

**Пытаньне:** П. 88 „в" пастановы СССР ад 4-VII—28 г. № 396 прадугледжвае назначэньне пэнсіі пажызьнена бацькам і супругу непрацаздольным і прастарэлым. Ці патрэбна гэта зразумець у тым сэнсе, што калі ўдава прызнана інвалідам 3-й групы БУЭ і апошнім установлен тэрмін пераасьвідзецельстваваньня праз год, дык яна належыць гэтакаму, так як у момант сьмерці мужа ці ў працягу 2-х год пасьля сьмерці мужа была прызнана інвалідам 3-й групы.

Адказ: Удовы, прызнаныя пры аглядзе III групы, не падлягаюць у далейшым пераагляду, хоць-бы ў заключэньні БУЭ і быў установлен тэрмін пераагляду.

*(Менская страхкаса).*

**Пытаньне:** Зварочвае ўвагу на невыкананьне Мазырскай Страхкасай пастаноў па сацстраху, у прыватнасьці, пастаноў СССС № 130 ад 21-III-29 г. ў адносінах выплаты застрахованым, накіроўваемым у іншыя гарады для спэцлячэньня, дапамогі па часовай непрацаздольнасьці і ўперад. У Менакрстрахкасу зьявілася застрахованая Жыткаўскага раёну, Мазырскае акругі гр. Касьпяровіч і прад'явіла бальнічны аркуш, з водпускам з 8 па 22-V—29 г., па якому яе накіроўваюць у Менск на лячэньне, але

грошы за гэты час ёй ня выплацілі, на яе просьбу выплаціць грошы па гэтым аркушы, упаўнаважаны Жыткоўскага страхпункту растлумачыў ёй, што аркуш будзе аплочан Менскай страхкасай. Прымаючы пад увагу сваю дэфіцытнасьць, Менакрстрахкаса лічыць гэткія адносіны з боку іншых кас ненармальнымі і просіць даць адпаведныя ўказаньні Мазырскай касы.

Адказ: Пры накіраваньні хворых на лячэньне ў другі горад Галоўсацстрах прапануе ўсім касам выплачваць хворым уперад за водпуск і часовую непрацаздольнасьць, згодна арт. 32 пастановы СССС, ад 9-V—27 г. № 121 і арт. 1 пастановы СССС ад 21-III—29 г. за № 130.

**Пытаньне:** Ці прарывае стаж інваліда працы работа, прахадзячая па частковаму страхаваньню, і ці ўключаецца ў стаж.

Адказ: Час, праведзены на працах страхуемых часткова, не прарывае працоўнага стажу, але не ўключаецца ў гэты стаж, за выключ. выпадкаў, прадугледж. арт. 16 правіл СССС ад 4-VII—28 году.

**Пытаньне:** П. 1 пастановы СССС № 448 от 28-VII-28 г. належыць прымаць такім чынам, што калі беспрацоўны, згодна 1-й частцы п. 23 пастановы ад 14-XII 1927 г. № 406 ужо атрымаў поўнасьцю за гэты год 9 мес. дапамогі і на падставе гэтага спыніў атрыманьне гэтакага, то ў 3-хмесячн. перапынак Праўленьню Т-ва выдаецца 6-цімесячны пай. Пры такім тлумачэньні пай будзе менш 6-цімесячнага разьмеру дапамогі толькі ў тым выпадку, калі беспрацоўны ўжо на другім годзе свайго беспрацоўя атрымаў дапамогу больш 3 мес. Такое тлумачэньне пашырае магчымасьць атрыманьня паю каапэратыўным Т-вам па параўнаньні з Кіраўніцтвам п/к. Апошнім капіталізацыйны пай выдаецца ў пэўнай адпаведнасьці з п. 1 пастановы НКП СССР ад 30-V-25 г. № 165-634-120, дзе гаворыцца аб выдзяленьні з ліку беспрацоўных, атрымліваючых дапамогу, і на практыцы страхкас толькі гэтаму кантынгэнту беспрацоўных выдаецца кіраўніцтву п/к капіталізацыя.

Адказ: У выпадку ўступленьня беспрацоўнага ў сябры прамысловакаапэратыўнага таварыства ці арцелі на падставе п. 1 пастановы СССС № 448 ад 28-VII-28 г. капіталізаваную дапамогу належыць выдаваць за тых і іншых у разьмеры ня больш 6-ці мес. і ня больш таго, колькі ім недатрымана за ўвесь пэрыяд беспрацоўя.

Капіталізацыю належыць выдаваць хаця-б уступленьне ў калектыў ці арцель вытваралася ў перапынак атрыманьня дапамогі па беспрацоўю.

**Пытаньне:** Ці належыць выдаваць дапамогу на пахаваньне інваліда працы, які знаходзіўся да сьмерці ў інвалідным доме НК Сац. Забясьпекі. Пастанова СССС пры НКП РСФСР ад 27-IX-26 г. № 238-1072 растлумачвае гэта пытаньне адмоўна.

Адказ: У выпадку сьмерці інваліда працы, знаходзячагася да сьмерці ў інвалідных дамох НК Сац. Забясьпекі, дапамога на пахаваньне не выдаецца, тая як у гэтым выпадку абавязковасьць вытварэньня пахарон ляжыць на інвалідным доме.

**Пытаньне:** З якога часу прымяняецца і ў якіх выпадках распаўсюджваецца пастанова НКП і НКФ СССР ад 12-II-29 г. „аб зьмяненьні інструкцыі, аб парадку прымяненьня пастановы ЦВК і СНК СССР ад 15-I-25 г. аб пэнсійным забясьпечаньні настаўнікаў школ 1-й ступені, сельскіх і гарадзкіх і іншым працоўнікам асьветы ў вёсцы.

Адказ: Пастанова НКП і НФК СССР ад 12-II-29 г. № 80-300 павінна быць распаўсюджана на ўсіх асоб, зварочваючыхся за пэнсіяй пасьля ўступленьня ў сілу паказанай пастановы, а роўна і на асоб, якім раней было адмоўлена ў прызначэньні пэнсіі, у віду адсутнасьці ў іх права на пэнсію, але якія набылі гэтае права на падставе паказанай пастановы.

Ч. в. а. Нач. Галоўсацстраху *Давідовіч.*

Сакратар *Нікакораў.*

Друкарня БДВ. Зак. № 3252. У ліку 500 экз. Галоўлітбел № 2131.